Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

АДНА ЗЯМЛЯ

# Рэгіянальная газета

13 - 19 ЛЮТАГА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ

№7 (147)

## Добры дзень, рэдакцыя!..




ФОТАЭЦЮД АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА

*Навіны*

## 9000 сустрэч

*МАЛАДЗЕЧНА. Менавіта столькі сустрэч з чытачом правяла "Маладзечанская газета".*

Першы нумар яе выйшаў у далёкім ужо 1939-м, пасля ўз'яднання Беларусі ў адзіных межах БССР. У мінулую сераду нашы калегі выпусцілі "юбілейны" -- дзевяціwhen тысячны -- нумар. На сённяшні дзень "Маладзечанская" з'яўляецца адной з лепшых аб'яднаных і раённых газет Беларусі-- па тыражы, змесце, аператыўнасці падачы навін. Рэдакцыя "РГ" віншуе калегаў і зычыць плёну на газетных старонках!

*Аддзел інфармацыі.*

## На лаве падсудных — мытнікі

*АСТРАВЕЦ. У 25 мільёнаў ацаніў халатныя адносіны да выканання службовых абавязкаў 30-гадовага інспектара мытні Аляксандра Шлынава Астравецкі народны суд.*

Яшчэ ў мінулым годзе, працуючы на КПП "Катлоўка" інспектарам, ён прапусціў праз мытны пост аўтобус з Літвы, дзе знаходзілася 2411,8 кілаграмаў трыкатажу і 84 кілаграмы парфумы, без аплаты мытнай пошліны.

Гэта ўжо другі мытнік, асуджаны за непрацяглы тэрмін. Яшчэ адзін знаходзіцца пад вартай у чаканні далейшага лёсу за хабар. А Астравецкая мытня тым часам ліквідуецца і будзе падпарадкоўвацца Ашмянскай.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Зубныя тэхнікі не патрэбныя

*МАЛАДЗЕЧНА. У медыцынскім вучылішчы прайшло размеркаванне выпуску 1998 года. Будучыя фельчары, медыцынскія сёстры накіраваны ў асноўным у медустановы Маладзечна, Вілейшчыны, Валожыншчыны, Мядзельшчыны. Ёсць размеркаваныя і за межы Мінскай вобласці-- у суседнюю, скажам, Смаргонь, у дзіцячы рэабілітацыйны цэнтр.*

А вось з 32 зубных тэхнікаў толькі трох чалавекам пашчасціла атрымаць накіраванне. У вобласці зубныя тэхнікі не патрэбныя. 29 выпускнікоў вучылішча -- зубных тэхнікаў -- атрымалі права самастойнага працаўладкавання. На наступны навучальны год увогуле вырашана не праводзіць набор на гэтую спецыяльнасць.

--Для нас гэта і свята, і клопаты, і радасць і слёзы,-- гаворыць, адказваючы на пытанне газеты, дырэктар вучылішча **Ларыса Тамашкіна.** -- Камусьці з маладзечанцаў хацелася застацца ў сваім горадзе, і з прыезджых, хто за гады вучобы прывык да Маладзечна, захацелася размеркавацца менавіта сюды... А месцы былі ў Ракаве, Заслаўі, пад Мінскам...

Дарэчы, на наступны год магчымыя праблемы з размеркаваннем фельчараў. Наўрад ці спатрэбяцца яны ў Вілейскім раёне. А вось жадаючым паехаць у Валожын і Мядзел-- шырокая дарога. Было б жаданне вучыцца.

*Аддзел інфармацыі.*

## І заквітнее ля школы сад

*5 лютага адбылося ўрачыстае адкрыццё Сівіцкай базавай школы.*

Пакуль за парты ў новым будынку (у старым школа размяшчалася на працягу 52 год) селі 73 хлопчыкі і дзяўчынкі. Праектная ж колькасць-- 180 вучняў. Школа будавалася доўгіх 10 год. Нарэшце, двухпавярховы будынак, які ўзнімаецца як карабель над вёскаю, напоўніўся дзіцячымі галасамі. Былы старшыня калгаса "Рассвет", чыімі стараннямі таксама ўзводзіўся будынак, **Анатоль Протас** пры адкрыцці школы зазначыў: дзеці, якія жывуць на забуджанай тэрыторыі, вартыя прывілеі вучыцца ў такой школе.

Не першы год дапамагае школе камітэт "Дзеці Чарнобыля", прадстаўнікі якога на адкрыцці ўручылі дырэктару **Анатолю Хімароду** чэк на набыццё стаматалагічнай устаноўкі, 380 кустоў парэчак і 400 яблынь для школьнага сада.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Лавілі рыбку рыбакі

*АСТРАВЕЦ. Амаль поўны аншлаг у мінулую нядзелю быў на вадаёме Мацкі. Прадстаўнікі шасці каманд-аў пры падтрымцы цікаўных балельшчыкаў лавілі рыбу, а калі больш дакладна, то прымалі ўдзел у раённых спаборніцтвах па падлёдавай лоўлі.*

**Уладзіміру Грышчуку** хапіла 1100 грамаў, каб стаць пераможцам. Па 950 і 900 грамаў адпаведна злавілі **Сяргей Магільніцкі** і **Аляксандр Дзісавенка**. Яны атрымалі ад раўспарткамітэта і аддзялення БТПР грашовыя прэміі.

У сакавіку там жа, калі будзе лёд, плануюць правесці міжраённыя спаборніцтвы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Каханне - дзе?

*АШМЯНЫ. Старшакласнікі СШ №2, іх бацькі, псіхолаг на чарговым пасяджэнні клуба "Дом" (кіраўнік Валянціна Пінчук), вызначылі асноўныя пытанні, якія хвалююць падлеткаў.*

На першым месцы стаіць пытанне выбару прафесіі. Далей - адзнакі ў школе, здароўе, адносіны паміж бацькамі і дзецьмі, культура паводзін, вольны час. На здзіўленне, такая немалаважная сфера, як каханне, была па-за ўвагай.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

## За ўсё трэба плаціць

*АСТРАВЕЦ. На апошнім пасяджэнні выканкома мясцовыя ўлады прынялі новае і даволі незвычайнае для Астраўца рашэнне - уявілі з лютага плату за паркоўку аўтамабіляў на вуліцы райцэнтра. Яна складае цяпер 12500 рублёў за газдзіну. Вызваляцца будуць інваліды I і II груп, а таксама вадзіцелі спецыяльных аўто.*

Плануецца, што грошы за паркоўку будуць залічваць на рахунак камунальнікаў, а затым накіроўвацца на добраўпарадкаванне і рамонт вуліц. Надзеі на больш прыгожыя і ўтульныя вуліцы ад гэтага застаюцца ледзьве не на мяжы фантастыкі.

*Аддзел інфармацыі.*

*Штотыднёвік*

ЛЮТЫ 13-19

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| Лепшая валянцінка для любімага - падпіска на "Рэгіянальную газету". | 53841 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |
| | Павіншаваць любімага чалавека з днём Закаханых - 14 лютага. |

*Крадзём, што можам*

## Парушальнікаў "здалі" энерганагляду

*МАЛАДЗЕЧНА - ВАЛОЖЫН. Крадзеж гараджанамі электрычнасці набывае маштабы катастрофы. Толькі за студзень работнікамі Маладзечанскага міжраённага аддзялення энерганагляду выяўлена 58 крадзяжоў. Парушальнікі пакараныя на суму, большую за 120 мільёнаў. Страты ж па рэспубліцы штомесяц складаюць больш за мільярд.*

У адной толькі вёсцы Дубіна на Валожыншчыне за адзін рэйд складзена 7 актаў. Сяльчанка **Валянціна Сівая** "залезла" ў электралічыльнік, каб ён лічыў на яе карысць. Іншыя электралічыльнік проста абмінулі — правялі направую электрычнасць у хлеў, лазню, да сячкарні.

**Канстанцін Радзівончык** з вёскі Дубрава Маладзечанскага раёна за 2 тэны - зразумела, іх работа не фіксавалася - заплаціў 3 млн. 645 тысяч. А летась штрафы былі па 8-9 мільёнаў.

Часцяком у жыхароў вуліц імя Кутузава (Маладзечна), Станцыйнай (в. Краснае) падала напружанне ў сетцы. Перагаралі халадзільнікі, тэлевізары. Кватэранаймальнікі самастойна правялі расследаванне, знайшлі "злодзеяў" і здалі іх энерганагляду.

Зімой вяскоўцы звычайна мала накручваюць электрычнасці. Халадзільнік - той жа склеп. Асабліва састарэлыя рана кладуцца спаць - які там тэлевізар. Падман не тлумачыцца неабходнасцю. І тым не менш...

А той, хто не хоча плаціць штраф, можа трапіць "на зону". Як трапіў на паўгода жыхар Н. з Гародзькаў Валожынскага раёна.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Майстар. Па крадзяжах

*СМАРГОНЬ. На 343 мільёны рублёў было выкрадзена прадукцыі з Агрэгатнага завода за мінулы год.*

Злачынцы цягнулі электрарухавікі, дэталі да трактараў. Асабліва вызначылася групоўка на чале з майстрам па вытворчасці. Вынік іх неафіцыйнай дзейнасці - 25 электрарухавікоў на 147 мільёнаў. Крадзенае збывалі гаспадаркам раёна. Усяго ўстаноўлена 8 фактаў крадзяжоў з Агрэгатнага.

*Альберт КУМІШЧА.*

*Па раскладзе*

## З'явіліся расклады руху гарадскіх аўтобусаў

*Ці заўважалі вы, што на некаторых аўтобусных прыпынках у Маладзечне павесілі распарадак руху аўтобусаў? А ці прыязджаюць яны па раскладу?*

Мы правялі маленькі эксперымент. 10 лютага прасачылі ход аўтобусаў на прыпынку **"Гарадская паліклініка"** з 13-00 да 15-30. Практычна ўсе яны прыйшлі своечасова (плюс-мінус 2 хвіліны). Правяраліся маршруты **№№ 4, 7, 9, 10.** За час назіранняў павінна было прайсці 19 аўтобусаў. Сумным выключэннем стаў толькі рэйс аўтобуса №10, які ў 13-41 не прыйшоў.

На маё пытанне да дыспетчара пасажырскага аўтапарка, ці з'явяцца на іншых прыпынках такія расклады, па тэлефоне адказалі:

- Не. Расклады знаходзяцца толькі на канцавых прыпынках.

Ад сябе хачу дадаць. Радуйцеся тыя, у каго на прыпынках ёсць такі расклад, бо на іншых няма і не будзе.

*Вольга МІЦЬКО, СШ №11, 9 "Б" клас, Маладзечна.*

*Ліст у рэдакцыю*

## ... у Вілейцы нешта ёсць

Паважаны галоўны рэдактар! Хачу зрабіць камплемент "Рэгіянальнай газеце"- яна становіцца больш змястоўнай і цікавай. Рубрыкі "Базарны дзень" і "Справы грашовыя" дапамагаюць арыентавацца абывацелю ў днях бягучым, а гістарычны раздзел-- не забываць пра мінулае. А чаго вартыя здымкі са "Старога альбома"!

А вось рубрыка "Крымінал" хай будзе не самай галоўнай. Бо выданняў, якія смакуюць рабаўніцтвы, забойствы і згвалтаванні больш чым дастаткова.

Пра адну, вельмі дробную, але прыемную падзею. Апошнія месяцы пасажыраў, якія сышлі з вячэрняга прыгараднага цягніка Маладзечна-Крулеўшчына (~21.15) на прыпынку **чакае** гарадскі маршрутны аўтобус (№1). Калі вы ўяўляеце, дзе ў Вілейцы размешчаны чыгуначны вакзал і як цяжка ўвечары дабрацца ў цэнтр горада, а тым больш у зенітаўскі раён, то такі факт вельмі нават прыемны. Варта было трошачку паманяць графік руху аўтобусаў, а як стала зручна. Цікава, да каго ў галаву прыйшла думка аблегчыць жыццё вілейчан, ці гэта з'явілася спантанна? Але ў любым выпадку ў Вілейцы нешта ёсць.

*З пажаданнем поспехаў С.Н., Вілейка.*

*Молада–зелена*

# Дайце падлетку шанц зарабіць

***Падлеткам патрэбныя кішэнныя грошы - на аўдыёкасету, упрыгожванні, дыскатэку... У бацькоў прасіць сорамна. Ёсць жаданне зарабіць. Праўда, без адрыву ад заняткаў у школе.***

Звяртаюся ў цэнтр занятасці насельніцтва з просьбай знайсці часовую работу ў спрыяльны час. Знайсці работу (пастаянную) для спецыялістаў, выпускнікоў ВНУ - праблема. Мае ж шанцы - амаль ніякія. Параілі звярнуцца ў Маладзёжны цэнтр другаснай занятасці. Але той толькі ствараецца і невядома калі зможа канкрэтна дапамагаць.

У аддзеле моладзі гарвыканкома зноў адправілі ў Маладзёжны цэнтр. А ў камісіі па справах непаўналетніх шчыра адказалі - знайсці работу для падлеткаў практычна немагчыма.

Вывучаючы праблему, я пазнаёмілася з аднагодкам з Мінска. Юрый апынуўся ў падобнай сітуацыі, але не разгубіўся і са старэйшымі таварышамі стварыў асацыяцыю - штосьці накшталт таварыства па ахове жывёл. На рахунак асацыяцыі трапілі (без ціску на "кліента") немалыя грошы. Аргументацыя была такая: "Забайкальскія сланы мруць. Ім патрэбная дапамога людзей. А ў людзей няма сродкаў, каб дапамагаць. Калі так і надалей будзе і ў сланоў пачнецца мутацыя (жарт), яны ператворацца ў камароў. Калі такія камарыкі будуць вас кусаць, смактаць вашу кроў? Дывідэнды залежаць ад ахвяраванай сумы. Але да новага года ўсе атрымаюць па біўню забайкальскага слана".

Каб не паўтарацца, мне прыйдзецца стварыць фонд па азеляненні Месяца. Зарабляць падманам, бо мае рукі нікому не патрэбныя.

*Таццяна МІР, СШ №9 г. Маладзечна.*

*Культ–ура!*

**ВАЛОЖЫН.** 17 лютага адбудзецца творчая справаздача дзіцячага танцавальнага калектыву "Раніца" (кіраўнік **Іна Шыбут**) на прысваенне звання "узорны", а ансамбль песні і танца "Журавінка" (мастацкі кіраўнік **Іосіф Ляшчынскі**), заснаваны яшчэ ў 50-гады, у гэты ж дзень будзе пацвярджаць званне "народны".

**СМАРГОНЬ.** Да дня Святога Валянціна прымеркаванае пасяджэнне аб'яднання "Гармонія". Тут жа маецца адбыцца прэзентацыя міні-тэатра (кіраўнік **Наталля Юркевіч**). Гэта будзе першая проба ў жанры тэатральных мініяцюр. Ну, а агульная назва мерапрыемства "Ізноў пра каханне" гаворыць сама за сябе. Культустановы горада рыхтуюцца да святкавання масленіцы.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Музычнае вучылішча на II туры рэспубліканскага конкурсу метадычных і творчых работ выкладчыкаў, што праводзіўся 11 лютага ў Слуцку, прадстаўлялі ансамбль вакальнай музыкі "Аніма" (кіраўнік **Андрэй Спічак**) і ансамбль эстраднай музыкі.

Выканаўцамі, што смела могуць прэтэндаваць на званне "лаўрэата", выступілі выкладчыкі вакальнага аддзялення **Маргарыта Васілевіч, Галіна Баян-Ключнікава, Таццяна Кнутовіч.**

- Студэнцкі вечар, прысвечаны дню Святога Валянціна "О любви немало песен сложено", пройдзе 18 лютага ў вялікай зале музычнага вучылішча, дзе яго ўдзельнікі могуць паспрабаваць свае творчыя здольнасці ў конкурсе песень пра каханне.
- Прафесійна-тэхнічнае вучылішча №21 на гарадскім конкурсе беларускай эстраднай песні прадстаўлялі навучэнцы **Алеся Кульша** і **Андрэй Шабовіч**. Дарэчы, Андрэй запрошаны ў якасці госця, як лаўрэат мінулагодняга конкурсу.
- На сцэне Дома культуры чыгуначнікаў 10 лютага прайшло цыркавое прадстаўленне Белдзяржфілармоніі. Уваход на свята сустрэчы з цыркам каштаваў 30 тыс. рублёў.
- Урок-сустрэча для наведвальнікаў цэнтра эстэтычнага выхавання з цыркавой студыяй "Мара" (кіраўнікі **Святлана і Віктар Горлавы**) праведзены на гэтым тыдні ў Доме культуры чыгуначнікаў.
- Святкаванні з нагоды дня Святога Валянціна пройдуць сёння ў політэхнічным тэхнікуме. Ініцыятыва і творчыя задумкі праграмы-- работнікаў гарадскога Дома культуры.
- У гэтыя ж дні поўным ходам ідзе падрыхтоўка да гарадскога свята масленіцы.

**АШМЯНЫ.** Вялікі святочны канцэрт з лепшых нумароў калектываў мастацкай самадзейнасці раёна, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння Пятра Машэрава, адбыўся 12 лютага ў в. Малі суседняга Астравецкага раёна.

- Запрашальныя білеты на вечар адпачынку атрымалі ў гэтыя дні воіны-афганцы, а іх у горадзе і раёне налічваецца 137. Каб лішні раз не трывожыць балючыя раны цяжкімі ўспамінамі, мерапрыемства вырашана было правесці ў мясцовым рэстаране "Беларусь" у форме забаўляльнай праграмы.
- Сцэнічны варыянт абраду "Каравай" будзе прадстаўлены гледачам 14 лютага ў Кракоўскім СДК, складзены на падставе вывучаных мясцовымі культработнікамі звычаяў і традыцый выпякання святочнага каравая да вяселля.

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА, Маладзечна.*

# Дзеці намалявалі

***МАЛАДЗЕЧНА. 7 лютага, як і ў большасці школ, у нашай школе прайшла сустрэча з выпускнікамі мінулых гадоў.***

Былыя вучні прыйшлі пад дах другога дома, каб пабачыць сваіх школьных сяброў і настаўнікаў, падзяліцца з імі сваімі думкамі і клопатамі, пажартаваць і пасмяяцца. Але апроч гэтага быў адзін пункт праграмы, які зацікавіў усіх.

Гэта выстаўка малюнкаў вучняў, якія займаюцца ў класах з мастацкім ухілам, дзе выкладаюць **Таццяна Мікалаеўна Космач і Алег Мікалаевіч Фёдараў**. Уражанне напачатку было такое, што маленькія дзеткі не могуць так маляваць. Але факт застаецца фактам: кожная работа была выкананая з вялікім мастацкім майстэрствам. Высокай адзнакай былі ацэненыя работы **Светы Майсевіч** "Каляды", **Наташы Рудак** "Хараство купальскай ночы", **Сашы Блізняка** "Дзякае паляванне карала Стаха".

*Вераніка АЧАПОЎСКАЯ, СШ№4, 11 клас.*

# Як нашы спявалі

***МЯДЗЕЛ. Звяз Польскага харцэрства на Беларусі правёў 8 лютага 1998 года ў Гродне IV фестываль харцэрскай песні, які адбыўся ў польскай школе.***

Фестываль сабраў каля 500 удзельнікаў і гасцей. Аб'яднанне Беларускіх скаўтаў прадстаўляла скаўцкая харугва "Зялёная дуброва" пры Сырмежскай СШ Мядзельскага раёна, што ў вёсцы Буйкі.

Усе ўдзельнікі выконвалі па дзве песні на польскай мове. Вельмі цёпла было спаткана выступленне блерускіх скаўтаў -- **Тарэсы Іватовіч, Алесі Вялікай, Алы Гускі, Таццяны Петрачэнкі, Івана Стральцова.**

*Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ, старшыня рады АБС.*

*Конкурсы лекараў*

# Дзеткі зімуюць у бальніцы. Але яны гэтаму радыя

***ВАЛОЖЫН. Лепшай участковай бальніцай Мінскай вобласці прызнана Вішнеўская.***

Некалькі дзесяцігоддзяў узначальвае бальніцу **Людміла Рубан.** Створаны калектыў аднадумцаў дзе шукаюць і ўкараняюць новыя ормы работы. Сама Людміла Уладзіміраўна гарачы прыхільнік гамеапатыі займаецца вырошчваннем лекавай сыравіны. Не так даўно пры бальніцы абсталяваны кабінет зубнога пратэзавання. За што вельмі ўдзячныя медыкам жыхары сельскага Савета. Цяпер няма патрэбы ехаць у райцэнтр выстойваць немалыя чэргі.

Другі год запар на час ацяпляльнага зезона перасяляецца ў бальніцу Вішнеўскі дзіцячы сад. Робіцца гэта з-за праблем з цяплом у дашкольнай установе. Медыкі афармляюць аздараўленчую рупу і прызначаюць дзеткам розныя фізіятэрапеўтычныя працэдуры, у тым ліку гразелячэнне. Можа, таму і эпідэміі грыпа і прастудных захворванняў абмінаюць вішнеўскіх дзяцей.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# За кансультацыяй едзьце ў Вілейку

***ВІЛЕЙКА. Вілейскае тэрытарыяльна-медыцынскае аб'яднанне разам са Слуцкім і Салігорскім стала лепшым у вобласці.***

Сярод урачэбных амбулаторый вілейчане таксама ўсіх апярэдзілі. Лепшай стала **Куранецкая.** У раёне ж (акрамя Куранецкай) сярод лепшых - участковая бальніца ў **Даўгінаве і Рабуньскі ФАП**.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*

*Памяць*

# Гісторыя аднаго помніка

**- Каго любіш?**
**- Люблю Беларусь.**
**- Так узаемна!**

***Гэта словы пароля паўстанцаў 1863-64 г. г. пад кіраўніцтвам рэвалюцыянера-дэмакрата, філосафа і публіцыста Кастуся Каліноўскага. Тыя падзеі сталі адной з самых слаўных старонак гісторыі нашага рэгіёна. Падрыхтоўка да паўстання пачалася неўзабаве пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе, калі не спраўдзіліся доўгачаканыя надзеі сялян на валоданне імі зямлёй. Пачаліся іх стыхійныя выступленні ў вёсках Іжа, Слабада, Порса, Паняцічы Вілейскага павета, Чурлёны, Спягла, Тарасавічы, Шэметава Свянцянскага павета і ў іншых месцах.***

Рознымі спосабамі ўладам удалося ўціхамірыць паўстанцаў, самыя актыўныя былі арыштаваныя і прыгавораныя судом да ссылкі. Але хвалі народнага гневу ўжо нельга было стрымаць. У канцы 1862 г. у Вільні быў утвораны цэнральны камітэт, які пазней назвалі Літоўскім правінцыяльным. Падрыхтоўка паўстання, якое намячалася на вясну будучага года, была парушана царскімі ўладамі. Яны праведалі пра ўсё гэта і нечакана правялі ў пачатку студзеня рэкруцкі набор. Паўстанне пачалося стыхійна, раней намечанага тэрміну.

У многіх паветах былі створаныя свае рэвалюцыйныя камітэты. Так, у Вілейскім павеце паўстанцкім начальнікам быў спачатку **Людвіг Кавалеўскі**, а яго памочнікам - памешчык Асцюковіцкага маёнтка **Канстанцін Тукайла.** Камісарам быў прызначаны настаўнік з Маладзечна **Зыгмунт Палітоўскі**. Начальнікам паўстанцкіх узброеных сіл быў прызначаны **Ян Козел-Паклеўскі**, а затым яго замяніў брат **Вінцэнт.**





ВІНЦЭНТ КОЗЕЛ-ПАКЛЕЎСКІ



ЯН КОЗЕЛ-ПАКЛЕЎСКІ



АДКРЫЦЦЁ ПОМНІКА З УДЗЕЛАМ ПРЭЗІДЭНТА МАСЦІЦКАГА
ФОТА ЗЛЕВА: БУДАЎНІЦТВА МАНУМЕНТА

*Экалогія*

## У падарунак — шчыгол

***МАЛАДЗЕЧНА. Жывая прырода... Толькі гэтая рэч можа ў наш час здзівіць чым-небудзь. На яе звярнулі асаблівую ўвагу арганізатары выстаўкі кармушак для птушак.***

На ёй былі прадстаўленыя арыгінальныя работы вучняў усіх школ горада, уключаючы работы першакласнікаў (іх было 3). Нават дзяўчынкі вырашылі прыняць удзел у гэтым нетрадыцыйным свяце, якое праходзіла 5-6 лютага ў СШ №3. А 9 лютага пераможцы атрымалі свае прызы. Другіх і трэціх месцаў было па 2, а вось лепшай была прызнаная кармушка **Аляксандра Яновіча** з СШ №9 (на фота). У якасці падарунка ён атрымаў сапраўднага шчыгла. Птушкі на справе патрабуюць больш уважлівага догляду. Усё ж яны - жывыя...

***Юля ВАНСЛАЎ, СШ №9.***



*Не кармушку, а сапраўдны рэстаран для птушак трымае ў руках Саша Яновіч.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА

## Вайна браканьерам

***СМАРГОНЬ. 230 парушальнікаў правілаў рыбнай лоўлі затрымала летась інспекцыя рыбаахові.***

На вадаёмах раёна, Ашмяншчыны, Астравеччыны браканьерам аб'явілі вайну. Чатыром аматарам "павудзіць" з Літвянаў (Астравецкі р-н) давялося заплаціць штрафаў на 10 мільёнаў. А чатыром мінчанам, якія лавілі на Віліі электравудамі--20.

***Альберт КУМІШЧА.***

## Размаўляюць па-польску

***АСТРАВЕЦ. У многіх месцах Беларусі існуюць перашкоды ў вывучэнні польскай мовы ў школах, ці такой магчымасці наогул няма. На Астравеччыне з падобным не сустракаюцца.***

- Сёлета польскую мову вывучаюць у 8 школах і дзіцяча-юнацкім цэнтры, - гаворыць метадыст раённага аддзела адук **Ванда Вайшнаровіч**. - Акрамя гэтага, яе вывучае больш за 300 дзяцей. Значную дапамогу ў гэтай справе аказвае Астравецкае аддзяленне Саюза палякаў. Адтуль атрымліваем метадычную літаратуру, прописы, падручнікі. Настаўнікі, якія выкладаюць польскую мову, штогод праходзяць курсы павышэння кваліфікацыі. Нядаўна з Польшчы з курсаў вярнулася **Алена Заранковіч**, а **Наталля Ступакова і Ірына Паршутовіч** былі ў Гродне.

Веды вучняў на добрым узроўні. Захоўваць іх дапамагаюць у дадатак да ўсяго і разнастайныя пазакласныя мерапрыемтсвы. Жадаючых навучацца польскай мове таксама хапае. Нездарма ж у самім Астраўцы ў мінулым годзе плануюць узяць на работу яшчэ адну настаўніцу.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

# Плата — адрэзаныя ногі

## 12 жыхароў рэгіёна летась загінула пад цягнікамі. 4 пакалечана. Лік ахвярам не спыняецца і сёння.

***Тыдзень таму 20-гадовы жыхар Смаргоні дызелем вяртаўся з Гудагая дадому. Быў у падпітку і неўзабаве праехаў сваю станцыю. Сышоўшы ў Заскавічах, вырашыў да Смаргоні дакрочыць пешшу па шпалах. Зразумела, шлях не блізкі. Праз сотню-другую метраў прысеў адпачыць на рэйкі. Напэўна, заснуў. Прачнуўся ў рэанімацыі.***

У канцы студзеня адразу дзве смерці. Днём у **Гудагаі** на чыгуначным пераездзе пад грузавы цягнік Маладзечна-Вільнюс трапіла машына "Фольксваген-Пасат", аб чым паведамлялася ў "РГ". Нягледзячы на закрыты шлагбаум, светлавы і гукавы сігналы, трое "аўтааматараў" вырашылі праскочыць. 386 метраў лакаматыў цягнуў перад сабою іншамарку. Вадзіцель загінуў адразу, двое ў рэанімацыі. Усе хлопцы мясцовыя.

У Лідскім напрамку на прыпынку **Сечкі** грузавы цягнік увечары збіў выкладчыка Брэсцкага чыгуначнага тэхнікума. Мужчыну адкінула ў снег. Загінуў адразу.

Сярод леташніх 16 пацярпелых 11 знаходзіліся ў добрым падпітку, і толькі 1 - самазабойца. Пенсіянеры і інваліды пад жалезныя колы не траплялі.

Аляксандр Рамановіч, загадчык траўматалагічнага аддзялення Маладзечанскай гарбальніцы добра памятае леташняга пацыента, 50-гадовага вадзіцеля. Яму адрэзала цягніком бядро на адным узроўні, а галёнку на іншым. Ахвяры чыгункі трапляюць у аддзяленне звычайна з адрэзанымі канечнасцямі і цяжкімі чэрапна-мазгавымі траўмамі. У першым выпадку расціснутае прышыць немагчыма. А тая ж кукса загойвацца можа некалькі гадоў.



Работнікі міліцыі на транспарце не памятаюць выпадкаў, калі б пацярпелы ці ягоныя родныя на чыгунку падавалі ў суд. Цягнік не аўтамабіль - адразу не спыніш. Толькі часцяком зрываюць з папераджальнага стэнда, што на чыгуначным вакзале, жудасныя фотакарткі са знявечанымі тулавамі родных, знаёмых, калег - балюча глядзець. Ды і асэнсоўваць. Разлік за выпіўку - адрэзаныя ногі. У лепшым выпадку, па-шчырасці, - галава.

***Васіль САВІЦКІ,***

*фота Сяргея Капылова.*

## БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сераду на рынку набыць прадукты харчавання можна было па наступных цэнах (у рублях у параўнанні з цэнамі мінулай серады ):

| Прадукт | 4.02.98 | 11.02.98 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 72 тыс. | **74 тыс.** |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 240,5 т. | **адсутн.** |
| Сасіскі свіныя, 1 кг | адсутн. | **78 тыс.** |
| Селядзец салёны, 1 кг | 39,5 тыс. | **42,2 тыс.** |
| Рыс, 1 кг | 21 тыс. | **24.6 тыс.** |
| Цукар, 1 кг | 22,5 тыс. | **22,6 тыс.** |
| Грэчка, 1 кг | 26 тыс. | **27.6 тыс.** |
| Алей, бутэлька 1 л | 52 тыс. | **53 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 23,3 тыс. | **26,6 тыс.** |
| Маянэз, 250 г | 14 тыс. | **14 тыс.** |
| Кава "Пеле", 100 г. | 62 тыс. | **62 тыс.** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 21 тыс. | **21 тыс.** |
| Мандарыны, 1 кг | 66 тыс. | **68 тыс.** |
| Соўс там. "Мінскі", 0,5л. | | **21 тыс.** |
| **Сялянскія прадукты:** | | |
| Смятана, 1 л | 30 тыс. | **30 тыс.** |
| Масла, 1 кг | 70 тыс. | **70 тыс.** |
| Тварог, 1 кг | 35 тыс. | **30 тыс.** |
| Малако, 1 л | 8 тыс. | **8 тыс.** |
| Бульба, вядро | 70 тыс. | **70 тыс.** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | | **40 тыс.** |

*Зварот да чытача*

## Адлюстраванне

***Ужо амаль сярэдзіна другога месяца новага 1998 года, з якім прыйшлі новыя надзеі і чаканні. Але жыццё, на жаль, не дае вельмі многа падстаў для аптымізму.***

Мы спрабуем сачыць за такімі з'явамі нашага жыцця, як цэны на базары, стан валютнага рынку, грашовыя справы і іншыя праблемы, якія крануюць звычайных людзей. Можа камусьці не падабаецца, што ў газеце многа крытычных ацэнак і неаптымістычных прагнозаў. Гэта робіць даволі змрочнае ўражанне на чытача. Аднак, паважаны чытач, мы проста адлюстроўваем рэальнае становішча спраў і маем смеласць называць чорнае чорным. А калі на фронце ўсенароднай барацьбы за павышэнне надояў малака нарэшце адбудзецца пералом, мы з радасцю звернемся да гэтай тэмы. Пакуль сярод шэрых будняў будзем заставацца люстэркам нашага жыцця.

*Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.*

*Анонс*

**Ці застануцца пернікі на паліцах магазінаў, ці будзем есці зефір у шакаладзе? На пытанні ласуноў адкажа дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства "Канфа" Маргарыта Карпенка. Чытайце ў наступным нумары.**

Браты нарадзіліся ў маёнтку Сэрвач (цяпер Вілейскі раён). Ян у 1837-ым, а Вінцэнт на год пазней. Абодва вучыліся ў школе гвардзейскіх падпрапаршчыкаў і ў інжынернай акадэміі Пецярбурга, належалі да рэвалюцыйнай афіцэрскай арганізацыі. Ян уваходзіў у склад Літоўскага правінцыяльнага камітэта, адзін з заснавальнікаў арганізацыі "чырвоных" у Мінску. Па даручэнні К. Каліноўскага пабываў у Маскве, аб'ехаў амаль усю Беларусь. Ужо ў лютым 1863 г. улады напалі на яго след, і таварышы вымушаныя былі пераправіць Яна ў Польшчу, кружнымі дарогамі вёз яго памочнік камісара доктар **Юзаф Каралькевіч** з Маладзечна. Пазней Каралькевіч некаторы час сядзеў пад ключом у вядомай Вілейскай турме, але змог апраўдацца і выехаў у Харкаў.

У Варшаве **Ян Козел-Паклеўскі** быў членам вайсковага ўрада паўстанцаў, камендантам горада, а затым ваенным начальнікам Аўгустоўскага і Гродзенскага ваяводстваў. Некаторы час камандаваў корпусам, меў званне палкоўніка. Пасля паражэння паўстання знаходзіўся ў эміграцыі. Вярнуўшыся на радзіму, апынуўся ў ссылцы. Памёр у 1896 г. і пахаваны ў Бабруйску.

Больш трагічны лёс напаткаў **Вінцэнта.** Будучы начальнікам паўстанскіх узброеных сіл павета, ён сабраў даволі вялікі атрад колькасцю звыш за 200 чалавек. Прапагандаваў сярод мясцовага насельніцтва праграмныя дакументы паўстання. Баявыя дзеянні на Вілейшчыне пачаліся ў канцы красавіка. Атрад Козела пастаянна сутыкаўся з царскімі войскамі і праследаваўся імі. Адно з іх адбылося 9 мая непадалёку ад зліцця Дзвіносы з Віліяй.

Так працягвалася больш за два тыдні. У ноч з 26 на 27 мая, манеўруючы па мясцовасці, яны пераправіліся на левы бераг ракі Ілія і занялі абарону ў невялікім ляску каля вёскі **Уладыкі**. Аднак царскім войскам колькасцю ў пяць з паловай рот удалося знайсці другі брод, невядомы Козелу, і нечакана напасці на яго атрад. Нягледзячы на гэта, паўстанцам удалося адкрыць агонь і захапіць узлессе. Некалькі салдат і камандзіраў рот былі выведзеныя са строю. Бой працягваўся больш за тры гадзіны, але сілы былі няроўныя, ды і ўзброеныя касінеры былі вельмі слаба. У ход ішлі нават косы, сякеры, нажы, вілы. Салдаты жорстка расправіліся з паўстанцамі. Першым у баі загінуў камандзір і яшчэ звыш 60 чалавек. Па іншых дадзеных са справаздачы рэгулярных войскаў, якія хацелі перабольшыць сваю перамогу, страты дасягалі колькасці ў 120 чалавек, некаторыя з якіх патанулі ў глыбокай яшчэ тады і халоднай Іліі. Частцы атрада на чале са штабс-капітанам **Чыглыкам** удалося выратавацца і адступіць у Ігуменскія лясы.

Паўстанцы, што загінулі, былі пахаваныя ў брацкай магіле на месцы бою. У 1933 годзе тут была ўстаноўленая мемарыяльная пліта, якая цяпер знаходзіцца ў жудасным стане. Нядаўна скаўтамі Вілейскай харугвы пад кіраўніцтвам П. І. Баслыка там быў устаноўлены вялікі драўляны крыж. Такі ж крыж быў імі ўстаноўлены і каля вёскі **Вуткі** на Іжаншчыне, дзе таксама адбыўся жорсткі бой паўстанцаў Свянцянскага павета з царскімі войскамі. У **Куранцы** таксама знаходзіцца брацкая магіла з 18 паўстанцамі, на якой у 1923 годзе пастаўлены каменны крыж.

Яшчэ адзін бой адбыўся на тэрыторыі павета каля маёнтка **Свечкі**, у якім загінуў ветэран рэвалюцыйнага руху **Юльян Бакшанскі.** Ён пахаваны непадалёку ад таго месца, у Плябані каля Краснага. Паўстанне было разгромлена, большасць яго ўдзельнікаў арыштавана і саслана, а найбольш актыўныя, у тым ліку і сам Кастусь Каліноўскі, прыгавораныя да смяротнай кары. Трэба адзначыць, што і іншыя браты Козел-Паклеўскіх прымалі ўдзел у тых падзеях. Так **Зянон і Юзаф** былі сасланыя ў салдаты ў Арэнбург і Омск, а **Міхал** загінуў у баі.

Актыўны ўдзел у тым паўстанні прымалі ў нашым рэгіёне і **Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч**, яго дачка **Каміла**, **Францішак Багушэвіч**, **бацька Адама Гурыновіча**, браты-вучоныя **Дыбоўскія** і іншыя.

Некаторыя гісторыкі сведчаць, што цела Вінцэнта Козела-Паклеўскага потым было адкапана і тайна перавезена ў фамільны склеп да маці ў **Сэрвач**. Яшчэ Максім Танк згадваў, што ў канцы трыццатых гадоў там стаяў вялікі драўляны крыж. Сучасныя вандалы разбурылі тыя пахаванні, нават дасталі дамавіну, у якой разам з рэшткамі цела ляжала шабля. З гэтага і зрабілі выснову аб перазахаванні Вінцэнта. Аднак мясцовыя старажылы даказваюць, што гэта быў значна пазнейшы патомак Козел-Паклеўскіх, польскі афіцэр.

Непадалёку ад гэтых мясцінаў у маёнтку **Абадоўцы** ўжо ў нашым стагоддзі жыў памешчык **Мечыслаў Багдановіч**. Сярод тутэйшых людзей ён лічыўся вельмі паважаным чалавекам. Спагадліва ставіўся да бедных, даючы ім дадатковыя заробкі. Расказваюць, што аднойчы яму сустрэўся селянін, які вёў на вяроўцы вельмі дахадзялую карову. Пан загадаў адвесці яе на корм лісам, якіх ён трымаў, а сабе выбраць на яго ферме любую, што спадабаецца. Дык вось, М. Багдановіч захацеў увекавечыць памяць паўстанцаў К. Каліноўскага, якія загінулі каля Уладык. У 1930 годзе ў цэнтры мястэчка **Ілья** на свае сродкі збудаваў велічны манумент, на адкрыццё якога запрасіў самога прэзідэнта Польшчы **Ігната Масціцкага** ў час яго прабывання на Вілейшчыне. Той не адмовіўся. Па дарозе з Вілейкі на Мядзел Масціцкі спыняўся ў Куранцы, дзе ахвяраваў збяднелым 2000 злотых, у Касцяневічах прымаў удзел у імшы. На Нарачы разам з рыбакамі выходзіў на возера. Тыя злавілі вялікага шчупака і падарылі прэзідэнту, які шчодра адарыў рыбакоў.

Помнік напаткаў трагічны лёс. У пачатку 50-х гадоў, тады Ілья было цэнтрам раёна, мясцовыя дапрызыўнікі, ды і вайскоўцы многа часу і сілы страцілі, каб ушчэнт знішчыць яго. А разам і драўляны касцёл. І толькі фотаздымкі, якія цудам засталіся, паведамілі нам тую сумную гісторыю.

***Анатоль РОГАЧ,***

***Вілейка.***

***Фота з архіва аўтара.***

